


Маладзечна, Вілейка, Смаргонь, Ашмяны, Валожын, Мядзел, Астравец, Мінск

# рэгіянальная газета

11 ліпеня 2003 года

№ 28 (429)
Выходзіць па пятніцах

ПЛЮС Тэлетыдзень

**Навіны рэгіёну**

## За адвагу

**МАЛАДЗЕЧНА**. Камандзіра аддзялення пажарнага аварыйна-выратавальнай часці № 6 Маладзечанскага гаррайаддзела па надзвычайных сітуацыях Юрыя Клімовіча ўзнагародзілі медалём "За адвагу". У гісторыі Маладзечаншчыны такі медаль уручаны ўпершыню.

Маладзечанец быў дома, калі да яго пастукаліся суседзі і расказалі аб пажары ў прыватным доме. Ён загараўся а палове 9-й гадзіны вечара. Пажарны выратаваў з агню мужчыну і жанчыну 1948 і 1959 гадоў нараджэння адпаведна. Здарэнне адбылося 12 лістапада 2002 года.

**Ірына РАБУШКА.**

## Пакусаў бабёр

**АСТРАВЕЦ**. Рэдкі выпадак адбыўся на ферме "Дравнікі". У белы дзень туды завітаў бабёр і накінуўся на загадчыцу. Абараніць яе спрабаваў пенсіянер, які акурат у гэты момант знаходзіўся на ферме, але жывёліна пакусала і заступніка. Цяпер пацярпелыя праходзяць курс лячэння ў бальніцы, а медыкі чакаюць заключэння спецыялістаў, якія правяраюць цяпер ужо забітага бабра на шаленства.

**Мар'ян ВЯНГРОЎСКІ.**

## Трагедыя на возеры

**МЯДЗЕЛ**. Жыццё маладога мядзяльчаніна забрала днямі возера Нарач. У час катання з дзяўчынай на катамаране хлопец вырашыў акунуцца, нырнуў і... больш на паверхні не паказаўся. Спадарожніца, даплыўшы да берага, паклікала дапамогу. Юнака паднялі на паверхню. Праз некалькі гадзін ён памёр у рэанімацыйным аддзяленні бальніцы.

**Марына СЛІЖ.**

## У памяць ахвяр

**ВАЛОЖЫН**. Пяршайская парафія рыхтуецца да ўрачыстасці. 19 чэрвеня тут пройдзе імша ў памяць аб закатаваных у гады вайны ксяндзах Ахілесе і Германе. Ля помніка ахвярам, які знаходзіцца ў Пяршаях, збяруцца не толькі жыхары сельсавета, але і высокія прадстаўнікі Рыма-каталіцкага духавенства Беларусі.

**Аддзел інфармацыі "РГ".**

## Ртуць прыбралі

**ВІЛЕЙКА**. У вёсцы Шылавічы на тэрыторыі райаграпрамтэхнікі майстар кацельні знайшоў прыкладна 100 грамаў разлітай ртуці.

Супрацоўнікі Маладзечанскага гаррайаддзела па надзвычайных сітуацыях сумесна з Вілейскім РАНС на аўтамабілі хімічнай разведкі сабралі ртуць у герметычны сасуд. Праводзіцца расследаванне.

**Ірына РАБУШКА.**

# Калі ласка, да стала!

**МАЛАДЗЕЧНА. Сёлетні год багаты на дождж. Дзякуючы яму растуць грыбы і ягады. Здаецца, і свежых паесці можна, і назапасіць. Каб... не кошт на іх і радыяцыя.**

– Вы праверылі свае ягады на радыяцыю? – пытаюся ў гандляроў, якіх мо, чалавек 20-30 выстраілася ў радок.

– Навошта, – адказваюць. – Яны ж чыстыя. Летась суседка правярала – усё было добра.

Дары лесу вязуць на базар у Маладзечна з нашага раёна, Вілейкі, Мядзела, Валожына, Смаргоні. Летась забракавалі 80 літраў ягад, што прывезлі з Пяршаяў, Любані, Іжы, Талуці, Даманава. Радыяцыя перавышала дапушчальную норму ў 3 разы.

Забруджаныя прадукты забіраюць у гандляроў супрацоўнікі ветырынарна-санітарнай экспертызы, што месціцца на калгасным рынку. І ў прысутнасці гаспадара засыпаюць хлорнай вапнай. Потым адвозяць у біяхімічную яму на гарадскую звалку. Мяркую, гэтым летам таксама прыйдзецца вікідаць дары лесу. Як кажа вопытны лабарант-радыёлаг ветсанэкспертызы рынка Ларыса Войтка, чым больш дажджоў, тым больш радыяцыйных ягад і грыбоў.

Лічыцца, што садовыя ягады (клубніцы, маліна...) больш чыстыя, чым дзікарастучыя (чарніцы, суніцы, брусніцы, журавіны...). Норма на радыяцыю для садовых складае 70 бекірэлій на кілаграм (Бк/кг), на дзікарастучыя – 185 Бк/кг. Летась на садовыя ягады норма была 100 Бк/кг. Па словах Л.Войткі змяненні звязаны з тым, што кожны год у Беларусі памяншаецца колькасць забруджаных прадуктаў. Што тычыцца радыяцыйнай нормы на грыбы, то на свежыя яна – 370 Бк/кг, на сушаныя – 2500 Бк/кг. Нормы зацвярджае галоўны дзяржаўны санітарны доктар Беларусі.

Летась на маладзечанскім рынку грыбы не прадавалі. Бо з-за засушлівага лета іх не было. Параўнаць колькасць ягад яшчэ складана. Таму што не ўсе паспелі. А вось супастаўць цэны на тыя, што ёсць і прагназаваць іх надалей самы час. Мінулым летам пяцілітровае вядро клубніц каштавала 5000 рублёў, суніц – 14000, чарніц – 4000. Сёлета – 9, 40 і 9 тысяч рублёў адпаведна. Летась самай таннай была алыча. 5 літраў яе прадавалі за тысячу. Найдаражэйшымі былі суніцы. Другое месца займалі ажыны, журавіны, брусніцы, маліны. У сярэднім яны каштавалі 7 тысяч рублёў. На даве тысячы дзешавей – дурніцы, абляпіха, чорная парэчка. Ад 1500 да 3000 прасілі за алычу, слівы, чарнаплодную рабіну, дачны вінаград, чырвоныя парэчкі і вішні. Ларыса Войтка раіць пакупнікам патрабаваць у гандляроў квіткі, што сведчаць аб радыяцыйным даследаванні. Яго можа зрабіць і сам пакупнік. У любым выпадку яно робіцца бясплатна і за 5 хвілін на ягады і грыбы. Дарэчы, лабарант-радыёлаг гаворыць, што лісічкі – "драўляныя" грыб. Нават, калі радыяцыя ў атмасферы і глебе будзе перавышаць у 10 разоў, лісічкам нічога не зробіцца. Баравікі і падасінавікі таксама з разраду "чыстых". Больш за ўсё радыяцыйныя нацягваюць курачкі і махавікі.

Напэўна, хутка на базары будзе дастаткова ягад, грыбоў. А таксама кавуноў... з-пад Чарнобыля.

"Наядзімся"...

**Ірына РАБУШКА.**



**Шмат грыбнікоў і ягаднікаў прадаюць дары лесу на маладзечанскім базары. Хтосьці з гандляроў праводзіць радыяцыйнае даследаванне, хтосьці – не.**

Фота Ірыны РАБУШКІ.

## «Адна зямля»



Чарговы традыцыйны фестываль "Адна зямля", адным з заснавальнікаў якога з'яўляецца "Рэгіянальная газета", пройдзе 13 ліпеня ў Смаргоні.

2-я старонка

## Людская хвароба



Не ўсім усміхаецца шчасце. Які лёс дзяцей-сірот? Матэрыялы Марыны Сліж і Ірыны Рабушкі.

4-я старонка

## Госця з Мексікі

Пані Кастаньецы, намесніца мэра Мехіка і жонка міністра замежных спраў Мексікі канца 70-х – родам з Вілейкі. Аб яе візіце на радзіму – матэрыял Аляксандра Наркевіча.

5-я старонка

■ ВЫТВОРЧАСЦЬ

# Радашкавіцкая кераміка

**Усю разнастайнасць керамічных вырабаў, якія выпускаюць на адкрытым акцыянерным таварыстве «Белмастацкераміка» ў Радашкавічах, у нашых магазінах не ўбачыш. Чаму?**

### У дырэктара

Па словах дырэктара гэтага прадпрыемства Мікалая Кладава, прычына ў запазычанасцях гандлю. Магазіны пастаянна вінаватыя ім.

М.Кладаў лічыць:

– Грошы робяць грошы. І выйграе той, у каго яны ёсць.

Дырэктар хоча выкараніць на сваім прадпрыемстве бартэр. Напрыклад, ім прапануюць цацкі ўзамен на керамічныя вырабы. Прадпрыемству патрэбны свабодныя грошы. Мікалай Кладаў гаворыць, што, відавочна, ў Беларусі не працуюць механізмы, якія б маглі прымусіць плаціць даўжнікоў. Праблема і ў апераджальным росце цэнаў на сыравіну, якую закупляюць у Расіі, Чэхіі. Цяжка вытрымліваць канкурэнцыю сярод кітайскай, украінскай, расійскай, галандскай, італьянскай керамікі. Гэта ўдаецца толькі за кошт якасці.

«Белмастацкераміка» лічыцца адным з буйнейшых беларускіх цэнтраў па вытворчасці керамікі. Тут вырабляюць 70% ад агульнай яе колькасці, што выпускаецца ў краіне. 35% радашкавіцкай керамікі экспартуюць у Расію, Ізраіль, Швецыю, Прыбалтыку.

Раней «Белмастацкераміка» была арцеллю, дзе выраблялі ўсё неабходнае для селяніна і вяскоўца. Гэта свечкі, валёнкі, драбіны, крэм для абутку. Кераміку пачалі выпускаць з 1975 года. Яе вытворчасць ледзь не самая старажытная. Мужчынская гэта справа ці жаночая, пытанне асобнае.

### У працоўным калектыве

На сучасным прадпрыемстве сярод 650 працуючых амаль усе жанчыны. Але і мужчыны і жанчыны лічаць сваю справу самай галоўнай. Што складана аспрэчыць.



Апраўшчыца Людміла Кузіна на ААТ «Белмастацкераміка» працуе 18 гадоў. Фота Ірыны РАБУШКІ.

Напрыклад, не было б мастака, які распрацоўвае новыя керамічныя вырабы, мы б іх і не ўбачылі. Зразумела, і без ганчара нічога не будзе. Не менш важнай лічаць сваю работу жывапісцы. Менавіта яны распісваюць па эскізах мастакоў кубачкі, талерачкі, вазоны..., што робіць керамічныя вырабы прыгожымі і адметнымі. Жывапісцы маці і дачка Таццяна і Наталля Галілеевы працуюць на «Кераміцы» ўжо доўга: па 20 і 10 гадоў адпаведна. Асноўны рабочы інструмент — медыцынская груша з устаўленай у яе абрэзанай і заточанай іголкай для уколаў. Рухі жанчын такія ж дакладныя, як і ў доктара. Працаўніцы кажуць, што пэндзлем распісваць складаней.

Ставельшчык-выбаршчык Яўген Касцюкевіч, які працуе на прадпрыемстве 20 гадоў, упэўнены, што яго справа самая важная. Ён займаецца абпальваннем керамічных вырабаў, для чаго ставіць іх у спецыяльныя печы. Там яны знаходзяцца 16 гадзін. Уявіце, якая спякота на працоўным месцы Яўгена. З дробнымі вырабамі працаваць больш клопатна і цяжка. Замест 20 вялікіх, трэба 100 маленькіх паставіць. Да таго ж яны могуць прыварыцца адзін да аднаго ці лопнуць. Але гэтага Я.Касцюкевіч стараецца не дапускаць. Ад яго майстэрства залежыць трываласць і знешні выгляд тавару. Яўгену падабаецца працаваць на «Кераміцы». Гаворыць, вялікі асартымент керамічных вырабаў (300 відаў), што выпускаюць зараз на прадпрыемстве, таму спрыяе. Кожную змену над нечым новым думае. Яго 16-гадовы сын ужо зацікавіўся бацькавай работай і прыходзіць сюды падпрацаваць.

Шмат сямейных дынастый было, ёсць і, напэўна, будзе на прадпрыемстве. Дзякуючы ім, ды і ўвогуле майстрам, радашкавіцкую кераміку ведаюць у розных кутках свету. За ўсе гады існавання «Белмастацкерамікі» тут выпусцілі больш за 2 тысячы відаў керамічных вырабаў. Кожны з іх захоўваецца ва ўласным так званым музеі. І штодня ўдасканальваюць якасць новага тавару, пашыраюць свой асартымент. Напрыклад, вырабляюць кухонную мэблю, асвойваюць выпуск сталярных вырабаў.

**Ірына РАБУШКА.**

## Курсы валют НБ РБ

| | 2.07 руб. | 10.07 руб. |
|---|---|---|
| Долар ЗША | 2060,00 | 2062,00 |
| Еўра | 2375,90 | 2339,34 |
| Злоты | 534,37 | 524,85 |
| Літ | 688,15 | 677,54 |
| Расійскі рубель | 67,92 | 67,79 |

**«Вулічныя» курсы ў Маладзечне**

| | | |
|---|---|---|
| Долар | 2050/2060 | 2053/2069 |

Маладзечна

## Цэны на рынку

| Прадукты | Цана (руб.) 2.07 | 9.07 |
|---|---|---|
| Кілбаса с/вялен., 1 кг | 12800 | 12700 |
| Сасіскі, 1 кг | 4310 | 3900 |
| Селядзец, 1 кг | 2800 | 2750 |
| Рыс, 1 кг | 820 | 800 |
| Грэчка, 1 кг | 1450 | 1450 |
| Цукар, 1 кг | 1310 | 1310 |
| Яйкі курыныя, 1 дзес. | 1100 | 1000 |
| Алей, 1 л | 1750 | 1750 |
| Маянэз, 200 г | 470 | 470 |
| Кава «Пеле, 100 г | 2200 | 2200 |
| Шпроты, бляшанка 160 г | 850 | 800 |
| Соус там.«Мінскі», 0,5 л | 800 | 800 |
| Цыбуля рэпчатая, 1 кг | 1100 | 1100 |
| Капуста, 1 кг | 700 | 800 |
| Морква, 1 кг | 1500 | 1700 |
| Лімоны, 1 кг | 2300 | 2200 |
| Апельсіны, 1 кг | 1900 | 1800 |
| Клубніцы, 1 кг | 4000 | 4500 |
| Чарэшня, 1 кг | 5000 | 3500 |
| Памідоры, 1 кг | 1800 | 1850 |
| Агуркі, 1 кг | 700 | 580 |
| Кавуны, 1 кг | 3000 | 1600 |
| Яблыкі, 1 кг | 1500 | 2700 |

### Сялянскія прадукты

| | | |
|---|---|---|
| Малако, 1,5 л | 600 | 700 |
| Смятана, 1 л | 1800 | 2000 |
| Масла, 1 кг | 4200 | 4300 |
| Тварог, 1 кг | 1600 | 1500 |
| Яйкі курыныя, 1 дзес. | 1400 | 1500 |
| Бульба, 1 вядро | 4000 | 4000 |
| Бульба маладая, 1 вядро | | 7500 |
| Клубніцы, 5-літр. вядро | 14000 | 15000 |
| Чарніцы, 1 шклянка | 1000 | 400 |
| Суніцы, 1 шклянка | 2000 | 2000 |



# Круціцца ганчарны круг

**РАДАШКАВІЧЫ. Без мінуўшчыны няма будучыні – вырашылі на ААТ "Белмастацкераміка" і аднавілі работу ганчарнага цэха.**

Шчырующь тут пакуль што восем чалавек. У асноўным людзі маладыя, не абдзеленыя здольнасцямі і жаданнем працаваць. Многія не з мясцовых. Даведаўшыся, што заводу патрэбны спецыялісты, прыехалі ў пошуках работы ажно з Ваўкавыска. Кіраўніцва пайшло ім насустрач. Выдзеліла месцы ў інтэрнаце, дазволіла жыць сем'ямі. Бо ці ж зможа чалавек працаваць творча, калі ў сэрцы вечны неспакой за сваіх блізкіх?

Вырабы тутэйшых ўмельцаў ніколі не паўтараюць адзін аднаго. У кожнага свой памер, свая форма, адценне. Таму пакупнік, набываючы тую ж вазу ў краме, альбо заказваючы на прадпрыемстве, можа быць упэўнены: у руках трымае ні што іншае, як эксклюзіў.

У кагорту ганчароў, што працуе ў цэху, удала ўпісваецца і сямейны дуэт Рамусавых. Юлія і Сяргей, як зазначылі на заводзе, умеюць не толькі хутка ўвасобіць задуму мастака ў жыццё, але і добра ведаюць тонкасці і сакрэты ганчарнай справы, без якіх гліна не "пяе", не грэе сваім цяплом, не радуе багаццем фарбаў і адценняў.

**Марына СЛІЖ.**



## Пажар у лазні

**МЯДЗЕЛ. У месцы, дзе ніколі не адчуваецца недахопу вады, гарадская лазні, здарыўся ў мінулую суботу пажар. Ад надзвычай высокай тэмпературы ў парыльцы загарэліся сцены, абітыя вагонкай.**

Пажарныя, што прыехалі на месца здарэння, патушылі агонь хутка, і наведвальнікі, якіх эвакуіравалі, змаглі прадоўжыць свой лазневы дзень.

**Марына СЛІЖ.**

# Пад дахам дома не свайго

**РАДАШКАВІЧЫ. 29 выпускнікоў Радашкавіцкай агульнаадукацыйнай школы для дзяцей-сірот выйшлі ў гэтым годзе за сцены навучальнай установы. Далёка не ружамі будзе ўсыпана іх дарога ў самастойнае жыццё, дзе цябе ніхто не чакае, дзе ты нікому не патрэбны. Хіба што школе і настаўнікам, выхавальнікам, якія ніколі не кідаюць тых, хто трапіў у бяду.**

Зоя Міхайлаўна Макляк працуе ў школе для дзяцей-сірот 22 гады. Пачынала тут старшай піянерважатай, а дарасла да намесніка дырэктара па выхаваўчай рабоце. Падымаючыся па прыступках службовай лесвіцы, не разгубіла ні шчырасці, ні чалавечнасці, ні дабрыні, у якіх так маюць патрэбу дзеці, з якімі працуе. Яна ўжо даўно не дзеліць іх на сваіх і чужых і лёс кожнага прапускае праз сваё сэрца. Гонар Зоі Міхайлаўны Галя Ганчар – дзяўчына, якая закончыла адразу вучылішча, затым тэхнікум і знайшла ў сабе сілы стаць студэнткай інстытута. Радуецца за Олю Курцэвіч і Кацю Жыхар, якія ўжо маюць свае сем'і і сталі добрымі жонкамі і нявесткамі. Але ёсць і такія, за чыё шчасце давялося пазмагацца...

## Наташа

Брудных, мурзатых хлопчыка і дзяўчынку, што сноўдаліся па вакзале ў пошуках сваёй мамы, падабралі міліцыянеры. Дзеці нічога толкам растлумачыць не маглі, таму вырашана было не прымаць паспешлівых рашэнняў і паспрабаваць дачакацца гора-маці, якая, па словах малых, хутка павінна была прыйсці. Стрэлкі гадзінніка паказвалі 22 гадзіны, а тая, што нарадзіла, так і не з'явілася...

Лёс раскінуў брата і сястру па розных інтэрнатах. Наташа, будучы выхаванкай Радашкавіцкай школы для дзяцей-сірот, так і не змагла даведацца, дзе Сяргей і што з ім. Затоеная, яршыстая, яна цяжкай была на дружбу і ўвесь час чамусьці скардзілася то на равеснікаў, то на педагогаў, якія быццам бы ўдзялялі ёй мала ўвагі. "Я да вас больш ніколі не прыду", – заявіла яна пасля выпускнога вечара і з горда паднятай галавой выйшла з двара школы...

Тэлефонны званок у кватэры З. М. Макляк раздаўся позна вечарам. Нясмелы голас на другім канцы провада прасіў сустрэчы і дапамогі. "Прыязджай", – сэрцам адчуўшы, што Наташы адзінока і цяжка, запрасіла былы педагог.

Яны прагаварылі да чатырох гадзін раніцы. Стомленая дарогай і ўспамінамі, дзяўчына, як толькі галава датыкнулася да падушкі, заснула. А Зоя Міхайлаўна ў тую ноч так і не лягла. Ёй трэба было выцягваць дзяўчо, што спала на яе канапе, з бяды. Жанчына зрабіла ўсё магчымае і немагчымае, каб уладкаваць цяжарную Наташу на працу, знайшла разуменне і падтрымку ўлад у Маладзечне, якія выдзелілі ёй жыллё. Але і пасля гэтага не магла жыць спакойна. Будучаму дзіцяці патрэбны быў пасаг у выглядзе каляскі, ложка, адзення, электрычнай пліткі, посуду, пральнай машыны. Патэлефанавала ў Германію, папрасіла знаёмую сям'ю, якая часта брала на аздараўленне дзяцей, дапамагчы.

Бываючы ў Маладзечне, яна ні разу не абмінула інтэрнат, дзе цяпер жыла Наташа. Больш таго, пазнаёмілася з яе суседзямі, камендантам, якую папрасіла хоць раз у дзень заглядваць у пакой да будучай маці, прывезла ўсю неабходную літаратуру.

"Зоя Міхайлаўна, гэта з інтэрната. Наташа ў роддоме",- паведаміў чыйсці незнаёмы голас на другім канцы провада і сувязь абарвалася. Яна тэлефанавала туды кожныя паўгадзіны, а бліжэй да вечара даведалася, што стала "бабуляй". Дзевятнаццацігадовая маці нарадзіла хлопчыка.

Забіраць іх з бальніцы зноў жа не было каму. Таму педагог узяла і гэты клопат на сябе. Папрасіла настаўніка, які меў сваю машыну, з'ездзіць з ёй у Маладзечна. Па дарозе купілі кветкі, цукеркі, а пасля яшчэ і ўдала сыгралі ролю Наташыных мамы і таты, ды так, што большасць медперсаналу нават не здагадалася, што дзяўчына – сірата.

Цяпер у іх, здаецца, усё добра. Хлопчык падрос, ходзіць у садок, яго мама працуе. Знайшоўся нават чалавек, які прапаноўваў ім свае руку і сэрца. Але Наташа выйсці замуж не згадзілася. Пасля таго, як падманулі, яна з нейкім недаверам адносіцца да ўсіх мужчын. Затое навучылася верыць у дабрыню і ведае, што ёсць на гэтай зямлі месца, дзе ёй заўсёды гатовы дапамагчы.

## Віка

Віка родам з Салігорскага раёна. Недзе там жывуць бацькі, старэйшы брат, якія, пакуль дзяўчынка знаходзілася ў школе, так ніразу яе і не наведалі. Першы раз у сваю вёску яна з'ездзіла, калі ўжо стала навучэнкай вучылішча. Старэнькая хатка, бруд, п'яныя бацькі, галодныя братавы дзеці назаўсёды перакрэслілі мару аб уласным доме. Віка ведала, што больш туды ніколі не вернецца.

З Галінай Міхайлаўнай яна пазнаёмілася, можна сказаць, выпадкова. Разгаварыліся, спадабаліся адна адной, і жанчына, якая з-за хваробы не зведала шчасця мацярынства, запрасіла Віку жыць да сябе. З кім было параіцца дзяўчаці перш чым прыняць такое рашэнне? Вядома ж, прыехала ў інтэрнат.

"Падумайце, – раіла пры сустрэчы Зоя Міхайлаўна Галіне, – не прымайце паспешных рашэнняў. Віка не дзіця, яна дарослы, самастойны чалавек, са сваім характарам, сваімі звычкамі. Прыгледзьцеся спачатку адна да адной, а пасля з'язджайцеся". Жанчына нічога не хацела чуць.

А праз некалькі месяцаў заплаканая Віка ўжо сядзела ў кабінеце псіхолага і, размазваючы па шчаках слёзы, расказвала, што ніяк не можа дагадзіць прыёмным бацькам: дрэнна прыбірае, не так прасуе, дрэнна гатуе. Больш таго, ёй не дазваляюць хадзіць на работу, заводзіць сяброў, размаўляць па тэлефоне. Агульнымі намаганнямі іх памірылі. Толькі не доўга ў сям'і панавала згода. Муж Галіны Міхайлаўны стаў аказваць дзяўчыне знакі ўвагі. І адносіўся пры гэтым не як да дзіцяці, а як да жанчыны. Напужаўшыся, Віка вярнулася ў сваю школу і наадрэз адмовілася жыць ў гэтай сям'і.

І зноў Зоя Міхайлаўна, заручыўшыся падтрымкай калег, пайшла па інстанцыях. Яна нідзе і нічога не патрабавала, проста прасіла, як за сваё дзіця. Знайшліся людзі, што зразумелі яе боль. Тані адразу дапамаглі ўладкавацца ў інтэрнат, затым – на работу. Увішная, дасціпная, акуратная, яна не падвяла сваіх апекуноў. Добра працуе, мае падзякі, стаіць у чарзе на паляпшэнне жыллёвых умоў і збірае грошы на вяселле, на якім зноў жа, маючы такі надзейны тыл, як педагогі і выхавальнікі школы, не будзе адчуваць сябе сіратой.

## Каця

Усе дзеці, што растуць без мам і тат, пясцяць у душы адну і тую ж мару: трапіць у сям'ю, набыць свой дом. Не была выключэннем і Каця. Гаварлівая, смяшлівая дзяўчынка, якая з-за свайго шустрага характару сябравала больш з хлопчыкамі, чым са сваімі равесніцамі-дзяўчынкамі. Тым не менш Тамара Ігнатаўна, што мае ўжо дарослага сына, вырашыла ўзяць апеку над дзяўчынкай-сіратой і спыніла свой выбар на ёй. Жанчыну папярэдзілі адразу ж: дзіця складанае, лёгка не будзе. Яна не спалохалася і з першага дня дала Каці поўную свабоду. Хочаш гуляць з хлопчыкамі ў футбол – калі ласка, не любіш сукенкі – насі штаны, хочаш да сяброваў у інтэрнат – едзь. Такія ўмовы задавальнялі чатырнаццацігадовую дзяўчынку. Напачатку, прыехаўшы ў Радашковічы, яна затрымлівалася тут на тры-чатыры дні, а праз нейкі час візіты свае звяла да мінімуму: гасцявала не больш сутак і прызнавалася, што сумуе па маме. Адчувалася, што разам ім добра, весела, хораша. Тым больш, што ў Тамары Ігнатаўны быў характар нечым падобны да Кацінага. Яна ніколі не засмучалася, не ныла, была лёгкая на пад'ём і ў свае 45 гадоў магла таксма паганяць з суседскімі хлопчыкамі мяч.

Гром грымнуў нечакана. Каця закахалася ў свайго старэйшага "брата", які жыў з імі ў адной кватэры і пачала канфліктаваць з яго жонкай. Разгубіўшыся, Тамара Ігнатаўна прыехала за парадай да школьнага псіхолага. А вярнуўшыся ў Маладзечна, зняла для сына з нявесткай кватэру. Маладыя не пакрыўдзіліся, даўно хацелі жыць самастойна, а вось Каця была сама не свая. Часам нават здавалася, што дзяўчынка не вытрымае выпрабавання разлукай, якое было залішне суровым. Але і тут прыёмная маці праявіла вытрымку і розум: старалася не пакідаць яе адну, пазнаёміла з пляменнікам, які быў нечым падобны на яе Ігара.

Бяду адужалі. Тым не менш настаўнікі, сацыяльны педагог, не мінаюць выпадку каб патэлефанаваць у сям'ю, спытацца як там Каця. Шчаслівыя маці і дачка наперабой хапаюць трубку, расказваюць навіны. За іх спакойна. І цяжка нават усведамляць, што магло б быць інакш...

Што ні выхаванец – свая гісторыя, свой лёс. У адных ён склаўся ўдала, у іншых – жыццё і сёння падобна на суцэльны жах. Стаўшы паўналетнімі, юнакі і дзяўчаты вярнуліся ў сем'і адкуль іх забралі дзецьмі і гэтак жа, як бацькі, п'юць, бадзяюцца, нідзе не працуюць, раскідаюць па інтэрнатах дзяцей. Але гэта ўжо іншыя гісторыі...

**Марына СЛІЖ.**



Жэня Вянгроўскі. Хлопцу 9 гадоў. Ён выхоўваецца ў Радашкавіцкай школе-інтэрнаце, але вельмі хоча жыць у сям'і. Жэня любіць тэатр, і з асалодай удзельнічае ў розных школьных пастаноўках. Найлепш у яго атрымліваецца роля дзеда. Летам Жэня нікуды не паехаў: яго няма каму забраць.

Фота Ірыны РАБУШКІ.

■ ЛЁСЫ

# Людская хвароба

**МАЛАДЗЕЧНА. Штогод выхаванцаў Радашкавіцкай школы-інтэрната удачараюць і ўсынаўляюць іншаземцы. Лёсы гэтых дзяцей розныя.**

... У сям'і Ц. было трое дзяцей. Маці пакутавала на псіхічныя расстройствы. Малодшага Дзяніску апякаў дзед. Старэйшыя Ніна і Андрыян трапілі ў школу-інтэрнат. Іх заўважыла італьянская сям'я, запрашала ў госці, неаднойчы забірала на канікулы. Урэшце італьянцы вырашылі назаўсёды пакінуць дзяцей у сябе.

Тым часам дзядуля, які даглядаў малодшага брата, застаўся адзін, узрост браў сваё. І Дзяніс апынуўся ў інтэрнаце.

Адміністрацыя ўстановы не магла дазволіць сабе разлучыць дзяцей. Так, як і аддаць іх італьянскай сям'і без дазволу маці. Час ад часу хвароба адступала, і жанчына была звычайным чалавекам. Усё ж такі маці пагадзілася на ўсынаўленне і ўдачарэнне.

– Я не дам ім будучага, – сказала жанчына.

Колькі слёз пралілі дзеці разам з ёй падчас расставання.

... Дзіма Ж. першы раз трапіў у Італію дзеля аздараўлення. Хлопчык дрэнна бачыў. Ён жыў у сям'і. Нарэшце расстацца з ім стала немагчыма. Гэтак жа немагчыма было і пакінуць яго ў сябе. Бо ў 1986 годзе, калі пачалася гэта гісторыя, паміж Беларуссю і Італіяй не было пагаднення на ўсынаўленне ці ўдачарэнне іншаземцамі нашых дзяцей. Прыйшлося пераадолець шмат цяжкасцяў. Урэшце нарадзілася новая італьянская сям'я.

Два гады таму Дзіма прыязджаў са сваімі бацькамі ў Радашкавічы. Гаворыць толькі па-італьянску. Сваю родную мову забыўся.

Дзіма вельмі падобны на свайго італьянскага бацьку. Дарэчы, той доктар. І дапамог сыну паправіць зрок.

Сапраўдныя яго бацькі ніколі не цікавіліся хлопцам, так як і Дзіма імі.

...Каця Б. і Рыта М. вучыліся ў інтэрнаце. Рыта трапіла ў Беларусь з Літвы. Дзяўчынку білі ў сям'і і ўвогуле не лічылі за чалавека. Сяброўства з беларускімі дзецьмі паступова вяртала яе да жыцця. Дзяўчынкі ездзілі на канікулы ў Італію. Каця прыглянулася сям'і М. Будучы бацька паехаў у Радашкавічы, дзе выпадкова сустрэлася з ім Рыта:

– Італьянец... Я так хачу ў Італію.

– Праўда? – перапытаў ён. – Я вазьму цябе, – і запісаў яе каардынаты на сваёй руцэ.

Калі Кацiны дакументы афармілі без цяжкасцяў, то з Рыцінымі прыйшлося павадзжацца. Яна ж грамадзянка Літвы, а жыве ў Беларусі.

Так нарадзілася інтэрнацыянальная сям'я М.: італьянскія бацькі і дзве дачкі з Літвы і Беларусі.

Каціны сапраўдныя бацькі пазбаўлены бацькоўскіх правоў. Яе зводныя сястра і брат засталіся ў Радашкавічах. Рыта не так даўно пабывала на сваёй малой радзіме.

Дзяўчынку пазнала толькі суседка, якая часта пускала яе пераначаваць ці перачакаць «буру» ў хаце. Першае, што сказала дзяўчына маці:

– Вось я – Рыта – паглядзіце якая! Ну, ударце мяне цяпер.

Жынчына гэтага не зрабіла.

...Свой лёс і ў 9-класніцы Вольгі С. Гэта выключны выпадак, калі удачараюць у такім узросце. Доўга сумнявалася італьянская сям'я.

Вольга тым часам ужо збіралася вярнуцца да сябе дамоў, дзе яе ніхто не чакаў. Маці, пазбаўленая бацькоўскіх правоў, разам з братам то п'е, то сядзіць за кратамі. Другі брат вучыцца ў Вілейцы. Часта прапускае заняткі, папівае. Бабуля хварэе. Бацька памёр. Ад усяго, што убачыла дома, у Вольгі сціснула сэрца. Яна пачала курыць. Напэўна, яе аддзяляў адзін крок ад жыцця, падобнага сваякам. У гэты момант італьянская сям'я вырашыла Олю забраць да сябе.

... Я ніколі не чула пра пакінутых дзяцей за мяжой. Мабыць, гэта наша хвароба. Шкада, што пакуль невылечная.

**Ірына РАБУШКА.**

**P.S. За тры гады супрацоўніцтва Радашкавіцкай школы-інтэрната з замежнымі сем'ямі 17 дзяцей знайшлі сабе маму і тату. У самы першы год (2000-ы) 3 дзяўчынкі і 3 хлопчыкі сталі дзецьмі італьянскіх бацькоў. Пазалетась знайшлі сабе сям'ю ў Германіі і Італіі дзве дзяўчынкі. Летась у гэтыя ж краіны пераехалі яшчэ дзве дзяўчынкі. Сёлета 3 дзяўчынкі і 4 хлопчыкі папоўнілі італьянскія сем'і. І толькі адна беларуская сям'я ўзяла сабе дзяўчынку.**

■ СТАРЫ АЛЬБОМ

# «Дыпламатычная калдобіна»

**ВІЛЕЙКА. У чэрвені 1979 года намячаўся візіт у СССР міністра замежных спраў Мексікі. З мексіканскага боку Крэмль растрывожыла навіна: меркавалася запрасіць у Маскву і жонку міністра. Ды каб яна наведала Вілейку. Як жа такое магчыма? Савецкія кіраўнікі візітуюць без жонак. Вілейка сваім выглядам можа сапсаваць "вітрыну рэальнага сацыялізма". Так на роўным месцы стварылася "дыпламатычная калдобіна". Але, відаць, даведаліся крамлёўскія дзядулькі, што Вілейка – не замшэлая разваліна, не стане лыжкай дзёгцю ў бочцы мёду, запрасілі і жонку, але афіцыйна — як намесніцу мэра мексіканскай сталіцы. Не цяжка здагадацца, што званок з Масквы ўзняў бурлівы паток клопатаў і мітусні ў вілейскага начальства: належным чынам падрыхтавацца да візіту.**



Вілейка. Чэрвень 1979 года. Соф'я Богдан (сакратар гарвыканкома), Вера Купрыянава (намесніца старшыні гарвыканкома), Генадзь Шавель (дырэктар завода будаўнічых дэталей), пані Кастаньецы (намесніца мэра Мехіка), Мікола Счасны (дырэктар лясгаса), Іван Трус (старшыня гарвыканкома), злева ад іх – дзве суправаджальніцы пані Кастаньецы.

Фота Юльяна ЯЦЭВІЧА.

### Мексіканская віляйчанка

— Пані Кастаньецы, намесніца мэра горада Мехіка, — адрэкамендавалі старшыні гарвыканкама Івану Трусу і яго намесніцы Веры Купрыянавай.

На чыстай рускай мове мексіканка расказала пра мэты свайго візіту і чаму яна для гэтага абрала Вілейку:

— Я віляйчанка. З сям'і Гутманаў. Горад над Віліяй – мая радзіма, калыска дзяцінства, — паведаміла заакіянская госця здзіўленым гаспадарам.

— Яна ў Вілейцы скончыла гімназію, — успамінае сёння Вера Барысаўна. – Затым выехала ў Бельгію прадоўжыць вучобу. Там выйшла замуж за яўрэя з Санкт-Пецярбурга. Неўзабаве і сынок-першынец з'явіўся. Ды нечакана ў іх лёс уварвалася вайна, другая сусветная...

Цяжкім выпрабаваннем для еўрапейцаў стаў 1939 год. Напад фашысцкай Германіі на Польшчу перарос у сусветную вайну. Яўрэям давялося ўцякаць ў Англію ці за Атлантычны акіян.

Апынуўшыся за Атлантыкай, яна стала доктарам навук, прафесарам, намеснікам мэра мексіканскай сталіцы па ахове прыроды. Яе мужа прызначылі міністрам замежных спраў. Для нармальнага жыцця яны мелі ўсё: і цікавую працу, і шчаслівую сям'ю, і пэўную заможнасць. Але сэрца верадзіў штодзённы ўспамін аб Радзіме, аб сябрах дзяцінства і юнацтва.

— За чатыры дні візіту хачу абысці ўвесь горад, сфатаграфаваць і завезці дзецям вобразы родных мне мясцін, — заключыла яна ў час знаёмства.

Былы рэдактар райгазеты "Шлях перамогі" Рыгор Пагуда ўспамінае:

— Мой бацька Уладзімір Пахомавіч добра ведаў даваенны горад. Вечарам пасля працы ён вадзіў пані па вуліцах. Паказваў, хто і дзе жыў з яе родных і знаёмых. Расказваў, якія змены адбыліся ў горадзе за 35 пасляваенных гадоў.

Гаворыць былы дырэктар лясгаса Мікола Счасны:

— Яе цікавілі нашы лясы: пароды дрэў, спеласць лясоў, як яны ахоўваюцца і выкарыстоўваюцца. Узяла з сабой насенне сасны, елкі, ясеня. Сказала, што вельмі хоча, каб у яе пад вокнамі раслі дрэвы Радзімы. Звазілі яе пад Куранец пабачыць хлебнае поле, затым – на вадасховішча.

— Наведалі з ёй завод будаўнічых дэталей, былую лесапілку яе дзядзькі Эйдэльмана, — працягвае аповед Вера Барысаўна. – Канечне, дырэктар Генадзь Шавель паказаў завод ва ўсім бляску: чысціня, парадак, руплівая праца...

### Што засталося за кадрам

На развітальным прыёме пані Кастаньецы горача падзякавала гаспадарам за шчырую гасціннасць. Госця зазначыла:

— Так змянілася Вілейка да лепшага! І мы ў Мексіцы рухаемся наперад, але тэмпы развіцця ў вас хутчэйшыя. Я абавязкова напішу кнігу пра сваю вандроўку на Радзіму, прышлю яе і вам.

За кадрам засталася дзікая боязь кіраўніцтва краіны дапусціць да народа госцю з капіталістычнай краіны, нават з "трэцяга свету", які СССР імкнуўся ўсімі сіламі перацягнуць на свой бок. Шпацыравала і яна па вуліцы, а за ёй ценем рухаліся хлопцы ў цывільным. Для чаго? А каб ні з кім не загаварыла. Яўрэі, яе знаёмыя, збіраліся і ля гасцініцы, і ля гарвыканкома. Іх настойліва адцяснялі тыя ж хлопцы. Навошта? А чаму б было не арганізаваць у Доме культуры сустрэчу гараджан са знакамітай іншаземкай ды залучыць дагавор аб дружбе і супрацоўніцтве? Не ў кожны райцэнтр прыязджаюць намеснікі мэраў з мексіканскай сталіцы, найбуйнейшага горада ў свеце.

Варта зазначыць і такую дэталь: пані Кастаньецы ахвотна купляла ў нашых крамах розныя льняныя рэчы: ручнікі, настольнікі, прасціradлы... Беларускі лён – гэта тое багацце, з якім мы маглі б выйсці ў людзі, заваяваць надзейнае месца на сусветным рынку. Ды дзе там? Змагаліся за чысціню ленінскіх ідэй, пакуль праз некаторы час сацыялістычная сістэма не наказала доўга жыць. Тады і загінула сцяна самаізаляцыі СССР і боязі перад заходнім светам.

Будзем спадзявацца, што назаўсёды.

**Аляксандр НАРКЕВІЧ**

■ ПРАБЛЕМА

# Сваю бяду чужымі рукамі развяду

## ці Каго і чаго баяцца маладзечанцы

**МАЛАДЗЕЧНА. Калі скажаш пра тое, што вуліцы ў раёне Лясных патрабуюць рамонту, Амерыкі не адкрыеш. Праблема гэта з барадой і паспела набіць аскоміну як гараджанам, так і ўладальнікам дамоў, якія мелі няшчасце тут пабудавацца. Бо многія колькі памятаюць сябе, столькі вымушаны хадзіць, як канстатуюць самі, па платах, да якіх іх прыціскаюць у бездарожжа аўтамашыны. Хаця, вадзіцелей таксама можна зразумець: легкавік жа не танк, якому пад сілу фарсіраваць любыя выбоіны і каляіны.**

Аповедаў падобнага характару калектыў "Рэгіянальнай газеты" наслухаўся дастаткова. Бо людзі, каб расказаць пра свае праблемы, у рэдакцыю не толькі тэлефанавалі, але і прыходзілі. Скардзіліся жыхары вуліц імя Вароўскага, імя Каліноўскага, Чыгуначнай, Паркавай, 1-га Сухога завулка. Толькі вось прадставіцца, назваць сваё прозвішча, не пажадаў ніхто.

"Каго і чаго баіцца народ?" – задаліся мы пытаннем і ў адзін з дажджлівых дзён наведаліся на Лясныя. Усё пачутае аказалася праўдай: і па вуліцах вышэй названых месцамі ні праехаць – ні прайсці, і лужыны тут падобныя на сажалкі, у якіх машыны хаваюцца па бампер. А вось людзей, якія б змаглі сказаць пра гэта зноў жа не хаваючыся за чужыя плечы, не знайшлося. Абураліся, мітынгавалі, прасілі разабрацца і толькі ні ў якім разе не ўпамінаць пры гэтым ні іх прозвішчаў, ні адрасоў. Маўляў, нам жыць, працаваць трэба, і ці мала чым гэта ўсё можа абярнуцца.

Не падзяліў іх настрою толькі пенсіянер Васіль Калтуноў: маўляў, няма чаго чужымі рукамі жар заграбаць і пра праблемы вуліцы Сухой, дзе жыве, расказаў сам. Высветлілася, што дарогі тут не бачылі рамонтнікаў гадоў гэтак дзесяць. Як раскапалі, калі праводзілі газ, так і не падабралі моманту добраўпарадкаваць зноў. То часу не было, то фінансавых магчымасцей. Людзі не маўчалі. Хадзілі, тэлефанавалі ў гарвыканком, "Камунальнік", звярталіся да сваіх дэпутатаў. Іх прасілі пацярпець, пачакаць, але дзейснай дапамогі так ніхто і не аказаў.

Стаміўшыся ад гэтага чакання ў "РГ" патэлефанавала яшчэ адна чытачка, маладзечанка Ірына Сцяпанава, якая таксама жыве ў раёне Лясных. Цікавіць яе тое ж пытанне: калі адрамантуюць дарогі. За адказам карэспандэнты звярнуліся ва УП "Камунальнік". Намеснік дырэктара па камунальных пытаннях Таццяна Цюшкевіч сказала, што добраўпарадкаванне павінны былі пачаць з гэтага панядзелка. Перашкодзіў дождж. Як толькі надвор'е ўстановіцца, дарогі пачнуць рамантаваць. У першую чаргу возьмуцца за вуліцы Някрасава, Шаранговіча, Багушэвіча, Лясную, а таксама вуліцу і завулак Заслонава. Гарадскі бюджэт выдзеліў на гэтыя мэты 90 мільёнаў рублёў. Каб давесці да ладу вышэй згаданыя вуліцы іх дастаткова. Т.Цюшкевіч мяркуе, што да восені дарогі адрамантуюць.

**Марына СЛІЖ,**
**Ірына РАБУШКА.**

■ САЦЫЯЛЬНАЯ ДАПАМОГА

# Дзень юбіляра

**МАЛАДЗЕЧНА. 17 год у горадзе дзейнічае аддзяленне сацыяльнай дапамогі, якая аказваецца дома. Арганізавала і кіравала аддзяленнем граматны, энергічны і ініцыятыўны чалавек – Любоў Федунец. 15 гадоў яна аддавала душу і сэрца працы. Аддзяленне было адным з лепшых у Мінскай вобласці. Многія новаўвядзенні, прапанаваныя ёй, сталі традыцыяй. Адно з іх – "Дзень юбіляра".**

Ужо пяць год у маі мы спраўляем гэты дзень для тых бабуль і дзядуль, каму на працягу года спаўняецца 80, 90 гадоў. А сёлета быў і 100–гадовы юбіляр. На свята мы рыхтуем сцэнарый, упрыгожваем залу, накрываем святочны стол, запрашаем з канцэртам дзетак з дзіцячага садзіка.

Бабулек запрашаем загадзя. Часам вядзецца вялікая работа, каб іх выцягнуць з дому – некаторыя шмат год не пакідалі сценаў свайгожытла. У святочны дзень на аўтамабілі прывозім усіх у аддзяленне, дзе на парозе з кветкамі сустракаюць іх работнікі аддзялення і праводзяць іх за святочны стол. Кожнага прадстаўляем.

У ходзе свята выносіцца торт са свечкамі. Юбіляраў віншуюць дзеткі. Кожнаму юбіляру даем слова. Яны з задавальненнем дзеляцца ўспамінамі аб сваім жыцці. Спяваюць песні свайго юнацтва, маладосці. У завяршэнне свята уручаем на памяць кожнаму невялікі падарунак. І робім на памяць агульную фатаграфію. Многія кажуць, што за іх доўгае жыццё такога свята ім ніхто не ладзіў. Дапамагаюць праводзіць такое мерапрыемства спонсары, у асноўным, прадпрымальнікі з Маладзечна, некаторыя прадпрыемствы.

Часы мяняюцца, ў жыццё ўносяцца карэктывы. Сацыяльная служба таксама церпіць змены. Так, для некаторых катэгорый грамадзян абслугоўванне стала платным, але плата гэтая сімвалічная. І тэлефон нашай службы 007 стаў для многіх, хто мае патрэбу ў дапамозе, дапамагае знайсці ў асобе сацыяльнага работніка блізкага чалавека, які раздзеліць радасць і гора, падтрымае ў цяжкую хвіліну.

**Зоя ШВЫРОВА,**
**інспектар аддзялення сацыяльнай дапамогі, Маладзечна.**

■ ГАСЦЁЎНЯ

# З авіяцыі – у пракуроры

**МАЛАДЗЕЧНА. Былы маладзечанскі міжрайпракурор Генадзь Вештарт працуе ў абласной пракуратуры. У новага міжрайпракурора Сяргея Каваленкі Маладзечанская пракуратура – чацвёртае месца працы. Пачынаў ён са следчага ў Барысаве.**

**– Што ў першую чаргу бярэце з сабой на новае працоўнае месца?**

– Сям'ю: жонку і сына. Што тычыцца работы, то вопыт, які стараюся назапасіць на кожным месцы работы.

**– Ваша прафесія – гэта абгрунтаваны выбар, спадчына, выпадак?**

– Усё адразу. Мой бацька адпрацаваў 32 гады ў сістэме пракуратуры, 27 з іх – намеснікам пракурора Барысаўскага раёна. Мне хацелася быць падобным на яго. Але не знайшлося такой установы, дзе можна было б атрымаць такую спецыяльнасць. Пайшоў вучыцца ў Барысаўскі політэхнічны тэхнікум на тэхніка-электрамеханіка авіяцыйных прыбораў і аўтаматаў. Збіраўся вучыцца далей у тады яшчэ Ленінградскім авіяцыйным прыборабудаўнічым інстытуце. Мог бы адразу трапіць на трэці курс. Потым неяк з сябрам разгаварыліся і вырашылі, што і ў Беларусі можна атрымаць нядрэнную адукацыю. Так трапіў у Беларускі недзяржаўны інстытут правазнаўства на факультэт міжнароднага права.

**– Пракурорская справа больш адказная? Ад вас залежыць жыццё чалавека.**

– Так. Пракурор назірае, каб усё адпавядала закону.

**– Ці абараняе наш закон чалавека?**

– Варта, каб закон быў дакладны, практычны, несуб'ектыўны, гуманны. Увогуле, яго складаюць тэарэтыкі, а мы – работнікі пракуратуры, суда – практыкі. Адрозненне ёсць. Наш закон не ва ўсім пакаральны, хутчэй павучальны. Тым не менш, ён строгі. І яго трэба выконваць. Нельга не сказаць, што закон гнуткі. Ён дае "скідку" маралетнім злачынцам, цяжарным жанчынам ці ўжо з дзіцем. Ёсць і амністыя, якая неабходна.

**– Вы верыце ў тое, што чалавек, які аднойчы пераступіў закон, пабываў за кратамі, можа выправіцца?**

– Канешне, веру. Інакш навошта тады працаваць. Вярнуся да павучальнасці закона, амністыі, што дае шанц чалавеку. Пазбаўленне волі – выключная мера.

Напрыклад, падлеткаў, што аступіліся, у першую чаргу стараюцца перавыхаваць. Калі ўсё ж такі яны трапляюць у калоніі, то там з імі працуюць псіхолагі, настаўнікі; падлеткі вучацца і здабываюць сабе прафесію. Пра палёгкі для жанчын я ўжо казаў.

**– Прафесія паўплывала на Ваш характар?**

– Так. Работа не пазбавіла мяне чалавечых пачуццяў. Напэўна, я ніколі не прывыкну да смярцей, якія бачу вельмі часта. Чалавек – гэта самае святое, а яго смерць – людскі боль.

Між тым у пракурора павінны быць халоднае сэрца і здаровы розум.

**– Вы і дома такі?**

– (Як быццам задаволены сам сабой). Дома я той, хто кахае. З жонкай жывём разам ужо 10 гадоў. Заўсёды вячэраем усёй сям'ёй. Кароннай сямейнай стравы ў нас няма. Яе вельмі складана вылучыць, бо жонка добра гатуе. Ды я і сам нядрэнна спраўляюся на кухні. І торт магу спячы, і кабанчыка засмажыць. Чырвонае віно з усялякіх ягад, асабліва з вінаграду, смачна атрымліваецца.

А яшчэ адзначаем дні нараджэнняў, ездзім у госці да бацькоў.

**– Мяркую, што ў Маладзечне Вы працягніце сямейныя традыцыі.**

– Так. У гэтым краі я ніколі не быў на рыбалцы, якой люблю займацца.

Увогуле, мне спадабаўся горад. Тры гады таму я быў тут з праверкай. Цяпер ён мяне зачараваў сваёй сонечнасцю і маладосцю яшчэ больш.

**– Дарэчы, Вашая маладосць не замінае кіраваць калектывам?**

– Наадварот дапамагае. Я патрабавальны кіраўнік. Калі рабіць, то на "выдатна". Калектыў дастаўся мне ў спадчыну прафесійны і зладжаны. Мяркую, разам зможам паменшыць колькасць злачынстваў у Маладзечне, па якой ён зараз на 5 месцы ў вобласці.

**– (З жартам). Дык тут без спартыўных навыкаў не абысціся.**

– Канешне, яны ў мяне ёсць. Я з 12 гадоў займаўся боксам. Маю званне кандыдата ў майстры спорту. Усю каманду сваю памятаю. Але гэта мне не спатрэбіцца. Я не збіраюся на рынг. І больш якасны "бой" правяду за сваім рабочым сталом.

Ірына РАБУШКА.



Міжрайпракурор Маладзечанскай пракуратуры Сяргей Каваленка.
Фота Ірыны РАБУШКІ.

**Біяграфічная даведка**

**Сяргей Каваленка нарадзіўся 24 сакавіка 1973 года ў Барысаве. Закончыў школу і мясцовы політэхнічны тэхнікум. Потым вучыўся ў Беларускім недзяржаўным інстытуце правазнаўства. Працаваў у органах пракуратуры горада Барысава следчым, старшым следчым, пасля – пракурорам па наглядзе за выкананнем заканадаўства пры правядзенні дазнання і аператыўна-пошукавай дзейнасці пракуратуры Мінскай вобласці, пракурорам Чэрвеньскага раёна. З 4 чэрвеня – міжрайпракурор Маладзечанскай пракуратуры.**

# Памятаюць у Маскве маладзечанскага мастака

**Летась у кастрычніку ў маскоўскай выставачнай зале "На Салянцы" прайшла выстаўка графіка і жывапісца Меіра Аксельрода. Больш за 30 гадоў няма яго ў жывых, а творцу памятаюць. Шкада, што ў Беларусі 100-гадовы юбілей мастака застаўся абыдзены ўвагай. А між іншым, Меір Майсеевіч нарадзіўся ў Маладзечне. Ён – старэйшы брат яўрэйскага паэта Зэліка Аксельрода. Біяграфі мастака не знайшлося месца і ў нашых энцыклапедыях.**

Дэбютаваў творца перад гледачом ажно ў 1921 годзе. У адной з мінскіх зал юны мастак (было тады яму ўсяго 19) выставіў 36 работ. Маладога чалавека заўважылі старэйшыя калегі. Асабліва высокую ацэнку даў Д.Штэрэнберг. Ён і напісаў рэкамендацыю Меіру для паступлення ў самую знакамітую па тым часе мастацкую ВНУ – Вышэйшыя мастацка-тэхнічныя майстэрні ў Маскве. Прыехаўшы ў Маскву, Аксельрод найперш паказаў свае работы Фаворскаму. Творы юнага правінцыяла ўразілі, здзівілі сталага майстра. А гэта вельмі паказальна. Усё ж Мінск заставаўся правінцыяльным у мастацкім сэнсе горадам. Калі зазірнуць у тагачасную гісторыю сённяшняй беларускай сталіцы, то варта нагадаць, што першая публічная выстаўка выяўленчага мастацтва адбылася ў Мінску ў 1891 годзе. Экспанавалася (пра гэта піша Захар Шыбека ў кнізе "Мінск: старонкі жыцця дарэвалюцыйнага горада") каля 100 работ.

У Маскве талент Меіра Аксельрода разгортваецца ва ўсю моц. Мастак уваходзіць у таварыства "Чатыры мастацтвы". У 20-я – на пачатку 30-х гадоў работы нашага земляка выстаўляюцца ў Амерыцы, Галандыі, Германіі, Англіі, Францыі. Не забываецца маладзечанец на радзіму, на Беларусь. Патрапіць у Маладзечна не дазваляе мяжа: родны горад – пад уладай Польшчы. А вось у Мінску Меір – часты госць. Прыязджае сюды з радасцю. У той час брат мастака паэт Зэлік Аксельрод – у эпіцэнтры літаратурнага жыцця. У 1931 годзе яго запрашаюць адказным сакратаром літаратурнага яўрэйскага часопіса "Штэрн" ("Зорка"). Зэлік Майсеевіч і пазнаёміў брата з пісьменніцай, літаратурным крытыкам Рывай Рубінай (нарадзілася ў Мінску ў 1906 годзе). У сярэдзіне 30-х Рыва і Меір пераязджаюць у Маскву на сталае месца жыхарства.

Рыва працягвае працаваць як празаік, літаратурны крытык. Шмат перакладае на рускую мову – з беларускай, малдаўскай. Між іншым, нават адна з першых кніг Івана Шамякіна на рускай мове пабачыла свет дзякуючы менавіта перакладам Рывы Рубінай. Меір займаецца жывапісам, кніжнай графікай. У цэнтры ўвагі мастака – жыццё расійскага яўрэйства. Часам (а можа, нават і ва ўсе часы) тэма гэтая знаходзіцца ледзьве ці не пад забаронай. Той, ранейшай, 20-30-х гадоў, увагі няма. Але Меір Аксельрод працуе як кантаржнік. Сотні, тысячы малюнкаў... Часам сродкаў не хапае не толькі на фарбы і палотны, але нават на паперу.

І ўсё ж надыходзіць час справядлівасці. У 1966 годзе ў Маскве праходзіць першая вялікая персанальная выстаўка Меіра Аксельрода. Творца завяршае цыкл пейзажаў "Успаміны пра стары Мінск". Малюе партрэты Яўсея Дрыза, Аркадзя Райкіна, Рувіна Фраермана, Барыса Слуцкага, Віктара Шклоўскага, Этэль Ковенскай. Працуе над вялікай тэмпернай кампазіцыяй "Гета". Запознанае прызнанне. Працы набываюць Траццякоўская галерэя, "Рускі музей", іншыя галерэі. А ў 1970 годзе мастака не стала...

Рыва перажыла мужа на 17 гадоў. І ўсе іх прысвяціла прапагандзе мастацкай спадчыны свайго паплечніка. Ужо пасля смерці Меіра выстаўкі яго работ прайшлі ў Ленінградзе, Тбілісі, Смаленску, Маскве (двойчы!). У 1982 годзе – да 80-годдзя мужа – Рыва выдае манаграфію, прысвечаную творчасці Меіра.

У сям'і мастака і пісьменніцы вырасла і таленавітая, вядомая ў Расіі і ва ўсім, відаць, свеце паэтэса Алена Аксельрод. Яна, між іншым, напісала і "Кнігу пра бацьку". У 1995 годзе ў Нью-Ёрку Алену Аксельрод прызналі лаўрэатам Міжнароднага конкурсу паэтаў. Паэтычныя радкі дачкі Меіра і Рывы ўвайшлі ў складзеныя Яўгеніем Еўтушэнкам "Строфы века. Погляд з Расіі". Дастойная дачка дастойных бацькоў.

Алесь КАРЛЮКЕВІЧ.

■ ЗАБЫТЫЯ ІМЁНЫ



## Філарэт з Ашмянскага павета

**Калі чытаеш творы Францішка Багушэвіча, часам не здагадваешся, што некаторыя з іх з'яўляюцца пераробкамі твораў яго менш вядомых суайчыннікаў. Я маю на ўвазе яго твор "Песня", які ён перарабіў з менш вядомага твору Інацэнты Старушкевіча. Хто ён? Чаму яго "Песня філарэтаў" не такая вядомая, як твор Францішка Багушэвіча?**

Сапраўднае імя гэтага чалавека Антон Эдвард Адынец. Ён нарадзіўся 25 студзеня 1804 года ў мядзведжым кутку Ашмянскага павета — вёсцы Гейстуны. Спачатку ніхто не думаў, што гэты малады чалавек будзе паэтам, перакладчыкам, мемуарыстам і выдаўцом. Але ўсе, хто яго ведаў, наракалі яму бліскучую будучыню. І вось — ён студэнт Віленскага Універсітэта. У 1823 годзе – магістр права. Сярод сяброў гэтага чалавека былі А. Міцкевіч, Я. Чачот, Т.Зан, І.Дамейка, І.Ходзька. Яшчэ студэнтам, у 1821 годзе, стаў членам таварыства філарэтаў, для якога і напісаў свой вышэйзгаданы твор.

У лістападзе 1823 – лютым 1824 года знаходзіцца за кратамі па справе таварыства. У турме пачаў пісаць. І ўжо ў 1825-1826 гадах выдае ў Вільні двухтомнік "Паэтычных твораў". Займаецца і журналістыкай. Даследчыкам яшчэ давядзецца знайсці шмат яго твораў, бо ў 1829 годзе ён ужо рэдактар альманаху "Мелітэле".

Пасля на працягу 1829-1837 гадоў падарожнічаў па Еўропе, часткова з М.Міцкевічам. Што кіравала ім у гэтых падарожжах? Адказам могуць стаць падзеі Французскай рэвалюцыі 1830 года.

Пасля жыў у Дрэздэне. Але дадому цягнула. І ў 1837 годзе Антон вяртаецца ў Гейстуны. Убачанае ўразіла, бо на гэты перыяд прыпадае росквіт рэакцыі, і мы можам толькі здагадвацца, што ж прымусіла яго праз год з'ехаць у Вільню. У 1841-1859 гадах рэдактуе "Віленскі веснік", усё больш схіляючыся да правых поглядаў. Ідзе на кампраміс з уладай, удзельнічае ў выданні "Альбома" ў гонар Аляксандра II у 1858 годзе.

З 1866 года ў Варшаве. Супрацоўнічае з газетамі і часопісамі. Перакладаў на польскую мову А.Пушкіна, Дж.Г.Байрана, Ф.Шылера. Аўтар мемуарных "Лістоў з падарожжа" 1875-1878 гадоў, "Успамінаў з мінулага" 1884 года.

Алесь РАЛАВЕЦ.

## Калі вы хочаце ў Германію

**Візавы аддзел пасольства Германіі ў Беларусі распаўсюдзіў прэс-рэліз, дзе гаворыцца аб рабоце аддзела ў гэтыя летнія дні.**

Усе яго работнікі – гаворыцца ў паведамленні – імкнуцца быць спагадлівымі, добра і добрасумленна працаваць. Аднак, як бы добра гэта не атрымлівалася, гэта не мяняе таго, што кожны дзень, асабліва вясной і ўлетку ў пасольства прыходзіць больш заяўнікаў, чым мы ў стане прыняць.

У некаторыя дні колькасць тых, хто прыйшоў, перавышае колькасць наведвальнікаў, якіх мы можам абслужыць, на некалькі соцень. Непазбежным вынікам гэтага з'яўляецца "хваля" заяўнікаў, якую мы адсылаем ад сябе і той, часам працяглы, тэрмін чакання, які праходзіць да моманту падачы дакументаў. Гэтага, на жаль, не атрымаецца пазбегнуць і ў будучыні (тое, што мы працуем, не так ужо дрэнна, пацвярджае, на нашую думку, статыстыка: у 2002 годзе мы выдалі больш за 120000 віз; колькасць адмоў пры гэтым склала менш за 3%!).

Дакладную і надзейную інфармацыю аб працэдуры атрымання візы можна атрымаць – паведамляецца далей – толькі ў нашых супрацоўнікаў, г. зн. у візавым аддзеле. Што б вам ні расказвалі на вуліцы перад візавым аддзелам – гэта зыходзіць не ад нас. Таму, калі ласка, не перакладайце на нас адказнасць за гэту (часта несапраўдную або няпоўную) "інфармацыю".

Асобы, якія перад візавым аддзелам, або дзе-небудзь яшчэ, прадаюць страхавыя полісы, абяцаюць дапамагчы ў атрыманні візы або прапануюць нейкія іншыя паслугі, дзейнічаюць не па даручэнні пасольства. Часта ў нас складаецца ўражанне, што гэтыя людзі жадаюць толькі зарабіць на вас і на нас.

Вы не можаце разлічваць на нейкія перавагі, калі вы скарысталіся паслугамі гэтых людзей. Мы не маем ніякага ўплыву на тых, хто знаходзіцца перад візавым аддзелам і якімі справамі займаюцца гэтыя людзі. Таму мы не бярэм на сябе за гэта ніякай адказнасці. У асаблівасці гэта тычыцца гандлю месцамі ў чарзе перад нашым візавым аддзелам. Калі толькі мы заўважым, што больш выгаднае месца ў чарзе вы купілі, мы прапусцім вас у візавы аддзел хутчэй пазней, чым раней.

Мы таксама не супрацоўнічаем ні з адной з турыстычных фірмаў. Якія б перавагі вам не абяцалі турыстычныя фірмы пры атрыманні візы, яны тым самым зводзяць вас у зман.

Мы абяцаем, што і ў будучыні мы будзем рабіць усё магчымае, каб ісці вам насустрач пры прыёме вашых візавых хадайніцтваў. Аднак, мы просім і вас праявіць у дачыненні да нас крыху разумення. Добрага падарожжа ў Германію! – заканчвае свой прэс-рэліз візавы аддзел пасольства Германіі.

**Аддзел інфармацыі "РГ".**

■ **НАДВОР'Е**

| **Мінск** | 12.07 | 13.07 | 14.07 | 15.07 |
| --- | --- | --- | --- | --- |
| **ападкі** (на працягу сутак) | | | | |
| **тэмпература**,°С днём | +22 | +18 | +22 | +27 |
| ноччу | +12 | +16 | +15 | +18 |
| **атмасферны ціск**, мм | 735 | 736 | 738 | 740 |
| **хуткасць ветру**, м/сек | 1-3 | 1-3 | 2-5 | 2-5 |

| **Вільня** | 12.07 | 13.07 | 14.07 | 15.07 |
| --- | --- | --- | --- | --- |
| **ападкі** (на працягу сутак) | | | | |
| **тэмпература**,°С днём | +24 | +20 | +26 | +28 |
| ноччу | +13 | +14 | +15 | +19 |
| **атмасферны ціск**, мм | 742 | 745 | 748 | 749 |
| **хуткасць ветру**, м/сек | 2-4 | 2-4 | 2-5 | 1-3 |

## Чытайце праз тыдзень:

- **Каб ведаць хто мы...** Дзеля чаго мы выракаемся мовы, якая тысячагоддзямі была роднай для нашых продкаў?
- **«Адна зямля» сабрала сяброў.** Кожны год «Рэгіянальнай газеты» ўзнагароджвае сваім прызам аднаго з лепшых выканаўцаў у нашым рэгіёне. Хто стане ім сёлета?
- **Аднойчы ў Красным.** Гісторыю маладой пары праз назіранні пасажыра аўтобуса расказвае **Уладзімір Кажамяка з Ілы.**

## Гараскоп 14 – 20 ліпеня



**Авен (21.03–20.04)**

Усё, што тычыцца сямейнага жыцця, набывае зусім новыя рысы і танальнасці. Калі ў гэты перыяд вы можаце пайсці ў адпачынак, то лепшага часу вам не знайсці – каб гэтыя "танальнасці" былі меладычнымі і прыемнымі. Тыдзень таксама будзе адзначаны фінансавымі паступленнямі з нетрадыцыйных крыніц. Кіраўнікі, сцеражыцеся хабару!



**Цялец (21.04–21.05)**

Вас нясцерпна пацягне адпачыць і паленавацца. Самы час! Перыяд вельмі падыходзіць для адпачынку і забаў. Бясспрэчны поспех у супрацьлеглага полу чакае майскіх прадстаўнікоў гэтага знака. А вось за рулём трэба паводзіць як можна менш часу – магчымы непрыемныя сітуацыі не толькі на дарогах, але і "ўнутры" машыны.



**Блізняты (22.05–21.06)**

Давядзецца займацца работай і кар'ерай, хаця ўнутраны настрой будзе больш скіраваны да асабістых ўзаемадносін, урэгуляванне сваіх праблем. Тым больш, што менавіта партнёрскія адносіны патрабуюць поўнага рэфармавання. Зрабіце нешта неардынарнае: рамантычная вячэра ці пікнік удваіх на прыродзе.



**Рак (22.06–23.07)**

Вы адчуеце прыліў сіл, дзякуючы далейшай гарманізацыі ў асабістых адносінах: магчыма аднаўленне саюзаў, якія распаліся. Аднак у цэлым здароўе застаецца пад пытальнікам, таму не эксплуатуйце нервовую сістэму: больш адпачынку на прыродзе і менш дзелавых зносін. Магчымы доўгачаканыя грашовыя паступленні ці вяртанне доўгу.



**Леў (24.07–23.08)**

Вы знойдзеце выйсце з тых складаных і заблытаных сітуацый, якія некаторы час вас праследавалі. Найбольшы поспех рашэння дзелавых пытанняў магчымы толькі ў руплівых дзеяннях, адзін вы зараз наўрад ці што зробіце. Трэба перагледзець свае адносіны да некаторых вельмі "добразычлівых" сяброў і іх "карысных" парад.



**Дзева (24.08–23.09)**

Бізнесменам час адысці ад руціны і падступіць да стратэгічнага планавання. Тым больш, агульная летняя сітуацыя не дазваляе інтэнсіўна прарывацца ўперад. Некатарая напружанасць у асабістых адносінах можа ўзнікнуць выключна з-за вашай прыдзірлівасці да дробязей. Па магчымасці пашкадуйце партнёра!



**Шалі (24.09–23.10)**

Абнаўленне эмоцый, сустрэчы з сябрамі (не блытайце іх з "патрэбнымі людзьмі"), прыемныя вячоркі ля вогнішча, з вудачкай на рэчцы. Вось што вам зараз неабходна. І чым вы ахвотна будзеце займацца. Гэты тыдзень – зацішша перад стартам нейкіх новых праектаў і праграм.



**Скарпіён (24.10–22.11)**

Вас пацягне ў далёкія краіны, да мора і акіяна. Калі ёсць такая магчымасць, збірайце рукзак і рушце ў падарожжа. Нават калі вы не зможаце пераадолець фінансавыя цяжкасці, то тыдзень на беларускай прыродзе правядзіце абавязкова. Асабліва добра правесці яго ў вузкім коле блізкіх людзей і выключыць "чужынцаў".



**Стралец (23.11–21.12)**

Грандыёзныя фінансавыя клопаты ахопяць снежанскіх Стральцоў з галавой. Большыя траты ці, насупраць, вялікія прыдбанні адзначаць гэты перыяд. У выхадныя магчыма запрашэнне ў госці, якое не прынясе вам задавальнення, аднак якое лепш прыняць. Звярніце ўвагу на лёгкае недамаганне – магчымы дрэнныя вынікі.



**Казярог (22.12–20.01)**

Калі нехта і можа засмуціць вас у дадзены перыяд, дык гэта толькі вы самі: менш сумненняў і хістанняў, больш энергічных дзеянняў. Свабодны ад работы час прысвяціце забавам і легкадумным (але не бязглуздым!) мерапрыемствам. Магчыма далёкая вандроўка.



**Вадалей (21.01–19.02)**

Вы таксама, як і Шалі, правядзеце тыдзень у адноснай бяздзейнасці, будзеце адпачываць і атрымліваць асалоду не ад працы, а ад зносін з сябрамі. Магчыма, ваша кампанія і будзе складацца з Вадалеяў і Шаляў. Юныя прадстаўнікі гэтага знака могуць не на жарт захапацца і закінуць усе справы і планы. Гэта небяспечна!



**Рыбы (20.02–20.03)**

Увесь перыяд вы будзеце раздражняльнымі і нават агрэсіўнымі. Навіны з-за мяжы могуць быць не вельмі шматабяцальнымі, як чакалася. Вам давядзецца знаходзіць выйсце з цяжкай фінансавай сітуацыі, таму што надзеі на дадатковыя даходы таксама будуць падманам. А займіцеся лепш каханнем! Хутка ўсё наладзіцца.

■ **У ГАСЦЯХ**

## Успаміны Лубнеўскіх

**Неяк давялося гасціць у шчырай беларуская сям'і Лубнеўскіх, што жыве ў вёсцы Мілакова ў заходняй Польшчы.**

Павал Лубнеўскі, які жыў на Віленшчыне, апавядаў, што каля вёскі Габітацыя Вілейскага раёна геройскі загінуў Іван Князеў з Мінска. Ён адзін вёў адчайны бой супраць гітлераўцаў, шмат іх паклаў, і таму Павал на ўсё жыццё запомніў ягонае прозвішча і тое, што чалавек паходзіў з Мінска.

А Браніслава Лубнеўская апавядала, што ў першыя дні вайны ў вёсцы Бурлакі Пастаўскага раёна атабарыліся акружэнцы-грузіны Пермен Гвісалі, які крыху разумеў па-руску, і Эмануэль Эмклюпэн, які нічога не разумеў па-руску. Калі немцы запатрабавалі іх выдаць, то гэтыя грузіны самі здаліся, каб немцы не палілі вёску, якая іх прытуліла.

**Алесь БАРКОЎСКІ.**



**Рэгіянальная газета**

Заснавальнікі: Аляксандр МАНЦЭВІЧ, Ніна МАНЦЭВІЧ.
Пасведчанне № 227
**Галоўны рэдактар Аляксандр МАНЦЭВІЧ**

Інфармацыйна-рэкламнае штотыднёвае выданне для рэгіёну і рэспублікі. Выходзіць па пятніцах. Тыраж 10040 экз.
Індэкс 63212 (індывідуальная падпіска), 63369 (ведамасная падпіска). Падпіска праводзіцца пастаянна ў паштовых аддзяленнях рэспублікі.
У розніцу – цана свабодная. №28 (429) 11.7.2003. РУП «Друкарня «Перамога», Міністэрства інфармацыі РБ. 222310, Маладзечна, вул. Таўлая,11.
Зак. № 2256. Падпісана ў друк у 13.00 10.7.2003
Наш адрас: **222310, Маладзечна, Вялікі Гасцінец, 68а.** Тэлефоны/факс: (01773) **6-96-67**, **5-38-41** (рэклама), **5-07-99**
E-mail: regionnews@promedia.by, http://regionnews.promedia.by

**Прыём дробных аб'яў**

**Маладзечна** Вялікі Гасцінец, 68а. Тэл. **69667, 53841**.
**Вілейка** вул. Вадап'янава, 23, капіравальны цэнтр «Парус». Тэл. **55284**.
**Вілейка** вул. 17 Верасня, 30, пошта. Тэл. **55233, 55539**.
**Смаргонь** вул. Танкістаў, 8, рэдакцыя «Новой газеты Сморгони». Тэл. **33077**.
**Смаргонь** вул. Танкістаў, 1, аддзяленне сувязі №2 Смаргоні. Тэл. **22211**.
**Чысць** вул. Зялёная, 4, магазін «Канцкласік». Тэл. **99172**.

**Тэлефонныя коды** гарадоў рэгіёна: **Астравец** – 01591, **Ашмяны** – 01593, **Валожын** – 01772, **Вілейка** – 01771, **Маладзечна** – 01773, **Мінск** – 017, **Мядзел** – 01797, **Смаргонь** – 01592

**Разліковы рахунак №3012164030006 у філіяле ААТ Белзнешэканамбанк» у Маладзечне, код 211, атрымальнік ТАА Рэдакцыя газеты «Рэгіянальная газета», УНН 600288444**